Гродна
№12 (470),
4 чэрвеня 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Святы Дух прабывае ў душы кожнага хрысціяніна

4 ЧЭРВЕНЯ КАСЦЁЛ АДЗНАЧАЕ ЎРАЧЫСТАСЦЬ СПАСЛАННЯ СВЯТОГА ДУХА, ЯКАЯ ЗАВЯРШАЕ ВЕЛІКОДНЫ ПЕРЫЯД. ДАВАЙЦЕ РАЗБЯРОМСЯ, ЧАМУ ЯНА З’ЯЎЛЯЕЦЦА АДНОЙ З ГАЛОЎНЫХ У ЛІТУРГІЧНЫМ КАЛЕНДАРЫ, А ТАКСАМА ХТО ТАКІ СВЯТЫ ДУХ І ЯК ЁН ДЗЕЙНІЧАЕ Ў ДУШЫ ВЕРНІКА.

● працяг на с. 3

## Каляндар падзей

*4 чэрвеня*
*Урачыстасць Спаслання Святога Духа. Заканчэнне Велікоднага перыяду.*

*5 чэрвеня*
*Свята Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы Касцёла.*

*8 чэрвеня*
*Свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара.*

*11 чэрвеня*
*Урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы.*

*15 чэрвеня*
*Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста (Божае Цела).*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***“Голас Евангелля”***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***“Сімвал веры”***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале “Беларусь–4”.*
***Чарговы выпуск 6 чэрвеня ў 19.10, паўтор – 10 чэрвеня ў 7.00.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Чэрвень***

*За разбітыя сем’і з нашай дыяцэзіі. Аб захаванні сужэнцамі і бацькамі вернасці свайму пакліканню.*

*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*

**“Без Святога Духа вера становіцца ідэалогіяй”. Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**НЯДЗЕЛЯ СПАСЛАННЯ СВЯТОГА ДУХА**
**Ян 20, 19–23**

Калі быў вечар таго першага дня тыдня, і дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя ад страху перад юдэямі, прыйшоў Езус і стаў пасярэдзіне, і сказаў ім: "Спакой вам!". І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і бок. Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана. Тады Езус зноў сказаў ім: "Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю вас". І, сказаўшы гэта, дыхнуў, і кажа: "Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца".

### МЫ БЫЛІ ПАСЛАНЫЯ

Дадзены фрагмент Евангелля гаворыць пра аб'яўленне Езуса сабраным вучням у дзень уваскрасення і пра даручаную ім місію: "Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю вас". Гэта яны, напоўненыя страхам пасля падзей Вялікай пятніцы, павінны былі стаць сведкамі змёртвыхпаўсталага Пана і абвяшчаць Яго навуку словам і жыццём. Аднак неабходна ўсведамляць, што тыя словы Хрыстос скіраваў не толькі Апосталам, але таксама кожнаму з нас – прынятых у Яго Касцёл праз хрост і ўмацаваных у веры праз сакрамант канфірмацыі, каб з моцай Святога Духа сведчыць пра ўваскрослага Пана ў сваім асяроддзі, сярод блізкіх, сяброў, знаёмых.

Перажываючы ўрачыстасць Спаслання Святога Духа, варта аднавіць у сабе той дух, каб зразумець і ўсвядоміць, што наша вера не можа абмяжоўвацца асвечанымі стравамі на Вялікдзень і аплаткай на Божае Нараджэнне. Быць хрысціянінам – гэта штосьці большае, чым перажыванне сваёй веры за зачыненымі дзвярамі.

**УРАЧЫСТАСЦЬ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ТРОЙЦЫ**
**Ян 3, 16–18**

Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб свет быў збаўлены праз Яго. Хто верыць у Яго, не будзе асуджаны, а хто не верыць, той ужо асуджаны, таму што не паверыў у імя Адзінароднага Сына Божага.

### СВЯТАЯ ТРОЙЦА – КРЫНІЦА ЛЮБОВІ

У літургіі Касцёла ў гэты дзень разважаем над адной з найважнейшых ісцін веры і, разам з тым, адной з тых, якія цяжэй за ўсё зразумець – праўдай аб Богу Адзіным у Тройцы: Айцу, Сыне і Святым Духу. За 20 стагоддзяў гісторыі хрысціянства шмат было сказана і напісана аб Святой Тройцы, аднак Яна надалей застаецца таямніцай, якую мы не можам да канца зразумець.

Дадзены фрагмент Евангелля ўтрымлівае вельмі яснае паведамленне, якое датычыць Святой Тройцы: Бог паслаў свайго Сына ў свет з любові да чалавека, каб паказаць яму дарогу да збаўлення, па якой сёння вядзе Святы Дух. І здаецца, што няма прасцейшага паслання, чым любоў, якую Стварыцель аб'явіў нам праз Езуса Хрыста. Але мова зразумелая кожнаму, паколькі любоў з'яўляецца тым, чаго мы ўсе патрабуем, шукаем. Праз яе можна ўчыніць вялікія рэчы. Нашым адказам на дадзенае пасланне павінна быць узаемнасць праз прыняцце любові і рэалізацыю яе ў сваім жыцці.

Бог ёсць Любоў. І гэтай любові Ён хоча навучыць нас, таму што прагне збаўлення чалавека. Мы павінны ўсвядоміць сабе гэта, паколькі "нас будуць судзіць з любові", як напісаў св. Ян ад Крыжа. Таму не будзем забывацца, пра што гаворыць сённяшняе Евангелле: Святая Тройца – крыніца сапраўднай любові.

*Кс. Ян Раманоўскі*



**Слова рэдактара**
*Кс. Юрый Марціновіч*

# Адкрыцца на Духа

*Часта можна пачуць заахвочванне да адкрыцца на Святога Духа. Асабліва шмат пра гэта гаворыцца ў кантэксце падрыхтоўкі да сакраманту канфірмацыі. Аднак у чым жа заключаецца такое важнае і патрэбнае адкрыццё на Духа?*

Нам лягчэй гэта зразумець, калі глядзім на Хрыста, які 2 тысячы гадоў таму хадзіў як чалавек па палестынскай зямлі. Евангелле падкрэслівае, што Езус усё рабіў у Святым Духу, якога прыняў падчас хросту ў Іярдане. У Святым Духу знаходзіўся ў пустыні, дзе Яго спакушаў д'ябал. У Святым Духу вярнуўся ў Назарэт. У тым жа Духу ішоў праз жыццё, робячы дабро людзям. І, урэшце, гэтага ж Духа аддаў у рукі Айца, калі паміраў на крыжы, каб пасля свайго ўнебаўшэсця спасланць Яго на Апосталаў і ўвесь Касцёл.

Вучні Хрыста ведалі пра спасланне Святога Духа, чакалі Яго. Аднак прыход Суцяшыцеля іх здзівіў, таму што гэты дар нечаканы, незапраграміраваны. Езус шчодра ўдзяляе яго кожнаму, хто адкрыецца на Духа ў пакоры, сціплы і малітве.

Той самы Святы Дух ёсць у кожным з нас з моманту хросту. Яго асаблівыя дары мы атрымалі праз сакрамант канфірмацыі: мудрасць, розум, раду, мужнасць, умеласць, набожнасць і боязь Божую. Святы Дух ніколі нас не пакідае – заўсёды побач. А калі б мы толькі лепш прыглядзеліся, Яго блізкасць уразіла б, захапіла і, што самае галоўнае, перамяніла.

Калі дазволім, як Хрыстос, каб Суцяшыцель кіраваў нашым жыццём, яно прынясе благаслаўлёны плён. Езус прагне, каб мы, з'яўляючыся Касцёлам, таксама былі Яго пераемнікамі. Калі даручым сябе Святому Духу, Збаўца зможа дзейнічаць праз нас, ажыццяўляючы цуды, падобна як 2 тысячы гадоў таму, калі Ён прыйшоў у свет як чалавек. "Сапраўды, сапраўды кажу вам: хто верыць у Мяне, будзе рабіць справы, якія Я раблю, і большыя за іх зробіць" (Ян 14, 12).

**Дарагія Чытачы!**

Мы павінны адкрыцца на дзеянне Суцяшыцеля. Ён жывы Бог. Святы Дух дазваляе нам адарвацца ад рэчаіснасці, адпачыць, дасведчыць Яго дары. Аднак для гэтага неабходна нястомна звяртацца да Яго, прасіць аб ласцы пазнання і зразумення Слова, дзякуючы якому пераманяюцца нашыя сэрцы – адкрываюцца на Бога і Праўду.

Таму молім словамі св. Аўгусціна: **"Будзь маім дыханнем, Святы Дух, каб разважаў тое, што святое. Будзь маёй сілай, Святы Дух, каб рабіў тое, што святое. Будзь маім жаданнем, Святы Дух, каб палюбіў тое, што святое. Будзь маёй моцай, Святы Дух, каб aберагаў тое, што святое. Барані мяне ад злога, Святы Дух, каб не страціў таго, што святое".**




# Фацімскае ацаленне

***Пантыфікат і ўсё жыццё св. Яна Паўла ІІ з'яўляюцца прыкладам таго, якія вялікія і цудоўныя ласкі можна спазнаць, даверыўшыся Маці Божай. Гэта менавіта Ёй Папа ўдзячны за сваё ацаленне падчас пакушэння. У памятны дзень 13 мая 1981 года на плошчы св. Пятра прагучаў выстрал, пасля якога св. Ян Павел ІІ павінен быў загінуць. Так лічаць крымінолагі, урачы і нават сам забойца. Нягледзячы на гэта, Святы Айцец выжыў. Ці ж гэта не цуд?***

У той трагічны момант Святы Айцец хоць быў па-людску безабаронны, але не адзінокі. Пасля пакушэння ён сказаў: ***"Ты была для мяне Маці заўсёды, а асабліва 13 мая 1981 года, калі адчуваў побач Тваю клапатлівую прысутнасць... Ва ўсім, што здарылася, я разгледзеў – і заўсёды буду паўтараць – асаблівую мацярынскую апеку Марыі".***

Многія бачылі ў гэтым знак, што Вайтыла выбраны для таго, каб марыйнаму досведу, які выйшаў з Польшчы, надаць агульнакасцёльныя маштабы. Некаторыя нават лічылі, што "Папа з далёкай краіны" паспрыяе развалу камунізму. Ніхто спачатку і не задумваўся, што гэты цуд звязаны з фацімскімі аб'яўленнямі.

Сам Папа, яшчэ будучы ў шпіталі, заўважыў супадзенне дат і часу пакушэння на яго з першым аб'яўленнем у Фаціме Маці Божай. Пасля азнаямлення з адпаведнымі дакументамі Святы Айцец упэўніўся: ***"Праз заступніцтва Маці Божай мне было нанова падорана жыццё", "Адзіным спосабам ацалення свету ад вайны, вызвалення ад атэізму, з'яўляецца навяртанне Расіі згодна з пасланнем з Фацімы".***

Св. Яна Паўла ІІ уратавала фацімская Панна! Ён застаўся жыць, каб выканаць Яе пажаданне. Хутчэй за ўсё, па гэтай прычыне ўжо падчас выздараўлення Папа прыступіў да падрыхтоўкі свету і Расіі да прысвячэння Беззаганнаму Сэрцу Марыі.

Пантыфік перадаў кулю, якою быў паранены, у дар для Фацімы, адзначаючы, што належыць Той, якая чувала над ім і выратавала. Яе змясцілі ў карону фігуры Маці Божай, тым чынам падкрэсліваючы сувязь фацімскага паслання з пакушэннем на Святога Айца.

***"У планах Божага Провіду няма выпадковасцей",*** – часта паўтараў св. Ян Павел ІІ. На працягу ўсяго жыцця ён нястомна сведчыў пра бязмежную вернасць Богу і даручэнне сябе з даверам Марыі. Пасля ўдзялення прабачэння злачынцу Алі Агджы падчас малітвы "Regina Caeli" Пантыфік сказаў: ***"З'яднаны з Хрыстом Святаром-Ахвярай, прыношу сваё церпенне ў ахвяру за Касцёл і свет. Табе, Марыя, паўтараю: «Totus Tuus ego sum!»".*** На гэты дэвіз, які адначасова быў яго біскупскім і папскім заклікам, св. Ян Павел ІІ шматразова спасылаўся ў кантэксце цудоўнага ацалення свайго жыцця праз заступніцтва Марыі. Усе цяжкасці пераносіў, спалучаючы з пакутамі Хрыста і нястомна паўтараючы: ***"Totus Tuus".*** Апошнія гады яго пантыфікату былі часам, каб паказаць Божую ўсемагутнасць у цярпенні і незвычайным імкненні да Дому Айца.

*Кс. Юрый Марціновіч*



# Святы Дух прабывае ў душы кожнага хрысціяніна



*У сакраманце канфірмацыі кандыдаты ўзбагачаюцца асаблівай сілай Святога Духа*

● працяг са с. 1

### ЧАМУ АДЗНАЧАЕМ УРАЧЫСТАСЦЬ СПАСЛАННЯ СВЯТОГА ДУХА?

На 50-ты дзень пасля Уваскрасення Збаўцы ў Іерусаліме ў Сіёнскай святліцы, дзе вучні Езуса сабраліся на малітву, узняўся шум з неба, як павеў моцнага ветру, і на кожным з іх затрымаліся языкі, быццам ад агню (параўн.: Дз 2, 2–3). Як і абяцаў Хрыстос перад сваім унебаўшэсцем, на Апосталаў у выглядзе вогненных языкоў сышоў Святы Дух – Суцяшыцель, які павінен завяршыць справу збаўлення чалавека.

Адчуўшы вялікі прыліў унутраных сіл, натхненне і невымоўную радасць, вучні сталі гучна праслаўляць Бога. Вакол іх сабралася шмат народу. І тут выявілася, што Апосталы загаварылі на невядомых ім мовах. Нягледзячы на тое, які разнастайны быў натоўп, кожны чуў сваю мову. І тады апостал Пётр прамовіў першую пропаведзь, у якой растлумачыў сабраным, што праз спасланне Святога Духа спраўдзілася старажытнае прароцтва. Заклікаў прысутных пакаяцца і прыняць хрост у імя Езуса Хрыста. Да вечара гэтага дня колькасць вернікаў узрасла да 3-ох тысяч чалавек. З таго часу ўрачыстасць Спаслання Святога Духа лічыцца днём нараджэння Касцёла.

> Святы Дух ніколі не пакідае нас, хоць самі мы па грахоўнай прыродзе можам пакінуць Яго.

### ЯК УШАНОЎВАЕМ УСПАМІН ГІСТАРЫЧНАЙ ПАДЗЕІ?

Раней у Італіі ў памяць пра цуд сыходжання вогненных языкоў было прынята раскідваць пялёсткі руж са столі святынь, у сувязі з чым урачыстасць называлася "Pasqua rosatum" ("Вялікдзень руж"). У Францыі падчас набажэнства дзьмулі ў трубы на ўспамін гуку моцнага ветру, які суправаджаў спасланне Святога Духа. У Вялікабрытаніі праводзілі шэсці, так званыя "Whit Walks" ("Духаўскія прагулкі"). Як правіла, у іх удзельнічалі духавыя аркестры і хоры. Дзяўчынкі, якія суправаджалі шэсце, былі апрануты ў белае. Таксама ладзілі "Духаўскія кірмашы", званыя яшчэ "Траецкімі элямі", дзе варылі піва, танцавалі марэску, праводзілі сырныя гонкі і турніры лучнікаў.

Ва ўсходнеславянскай народнай традыцыі ўрачыстасць Спаслання Святога Духа называецца Сёмухай, бо святкуецца ў 7-ую нядзелю пасля Вялікадня. У Беларусі, Расіі, Украіне, Польшчы існуе звычай упрыгожання святынь галінкамі ліставых дрэў (галоўным чынам бука, бярозы, ліпы і ліставніцы) і палявымі кветкамі на знак таго, што Святы Дух абнаўляе чалавека, дзякуючы чаму ён панаўнае расквітаць. У некаторых рэгіёнах Польшчы бытуе традыцыя дэкаравання зелянінай уласных дамоў, т. зв. "маенне". Гэты звычай асабліва распаўсюджаны ў парафіях, дзе на ўрачыстасць Спаслання Святога Духа прыпадае адпуст.

### КІМ АБО ЧЫМ З'ЯЎЛЯЕЦЦА СВЯТЫ ДУХ?

Некаторыя ўспрымаюць Святога Духа як нейкую фантастычную сілу, безаблічную энергію, руку ці подых Усемагутнага. У Бібліі ясна сцвярджаецца, што Святы Дух – гэта Асоба Бога, які Трыадзіны. Гэтую галоўную праўду наўрад удасца спасцігнуць розумам – трэба прыняць з пакорай. Вельмі важна ў яе паверыць, таму што нельга па-сапраўднаму ўшаноўваць Святога Духа, калі не лічыць Яго Асобай Бога. Праз няпоўнае ўспрыманне боскай таямніцы чалавек ненаўмысна зневажае Тройцу.

Чым яшчэ вернік здольны абразіць Святога Духа? У Катэхізісе Каталіцкага Касцёла пералічаны грахі супраць Яго: грашыць, празмерна спадзеючыся на Божую міласэрнасць; адчайвацца альбо сумнявацца ў Божай ласцы; супраціўляцца спазнанай праўдзе веры; зайздросціць бліжняму, які мае Божую ласку; закамянела трываць у грахах, адкладваць пакаянне аж да смерці.

Згодна Евангеллю, чалавеку не будзе прабачана грэх знеслаўлення Святога Духа – свядомае адкіданне відавочнага дзеяння Божай ласкі. "Усякі грэх і блюзнерства будуць адпушчаны людзям, але блюзнерства супраць Духа адпушчана не будзе. І калі хтосьці скажа слова супраць Сына Чалавечага, то яму будзе адпушчана. А калі скажа супраць Святога Духа, яму не будзе адпушчана ні ў гэтым веку, ні ў будучым" (Мц 12, 31–32). Пад знеслаўленнем Святога Духа Хрыстос меў на ўвазе абразу свайго Боства, пад знеслаўленнем Сына – свайго чалавецтва. Аб тым, наколькі страшны гэты грэх, сведчыць тое, што збаўлення можа быць пазбаўлены нават хто чыніць так несвядома.

### КАЛІ СВЯТЫ ДУХ ПАСЯЛЯЕЦЦА Ў НАШАЙ ДУШЫ?

Згодна вучэнню каталіцкага Касцёла, нараджэнне чалавека ў Святым Духу адбываецца падчас хросту. У гэты момант Найсвяцейшая Тройца нібы стварае дом у душы свайго стварэння. Узбагачэнне сілай Святога Духа ажыццяўляецца праз сакрамант канфірмацыі, калі Ён сыходзіць на хрысціяніна і ўдзяляе свае дары. Усе святары атрымліваюць асаблівую ласку Святога Духа ў сакраманце пасвячэння. Праз яе прыпадабняюцца да Хрыста – Святара, Настаўніка і Пастыра.

Такім чынам, Святы Дух жыве ў нас! Але Ён прысутны толькі ў той душы, якая знаходзіцца ў стане ласкі, сяброўстве з Усявышнім. Чалавек губляе гэтую ласку, калі па сваёй волі выбірае тое, што моцна супярэчыць Божаму закону (смяротны грэх).

У адной з апошніх гамілій Святы Айцец Францішак падкрэсліў, што трэба маліцца аб дары адкрытага сэрца, бо інакш "Святы Дух не зможа ўвайсці ў яго ўвайсці". Папа таксама прапанаваў задаць сабе вельмі важнае пытанне: "Ці стараюся слухаць Святога Духа, Яго натхненне, каб ісці наперад у хрысціянскім жыцці і сведчыць, што Езус з'яўляецца Панам?".

### ЯК СВЯТЫ ДУХ ДЗЕЙНІЧАЕ Ў НАС?

Той факт, што Святы Дух жыве ў нас, не гаворыць аб тым, што можам выкарыстоўваць Яго – гэта Дух выкарыстоўвае нас. Яго дары з'яўляюцца інструментамі, дзякуючы якім мы ў садзеянні з Усемагутным будуем Яго Валадарства. "Дары Святога Духа – пастаянная гатоўнасць, якая робіць чалавека здольным пайсці за Божым натхненнем" (ККК, 1830). Гэтых дароў 7: мудрасць, розум, рада, мужнасць, умеласць, набожнасць, боязь Божая.

> Усе мы павінны складаць еднасць у Езусе Хрысце праз Святога Духа.

"Аднаму даецца Духам слова мудрасці, другому – слова пазнання паводле таго самага Духа; іншаму – вера ў тым самым Духу; іншаму – дар аздараўлення ў тым жа Духу; іншаму – моц чыніць цуды, іншаму – прароцтва, іншаму – распазнаванне духаў, іншаму – розныя мовы, іншаму – тлумачэнне моваў. А ўсё гэта здзяйсняе адзін і той жа Дух, які ўдзяляе кожнаму паасобку, як жадае" (1 Кар 12, 8–11). І таму калі нехта просіць аб пэўных дарах, павінен памятаць, што Бог усё бачыць наперад і чыніць у чалавеку на сваё ўпадабанне, для карысці і плёну.

Замест таго, каб імкнуцца атрымаць Святога Духа, варта, найперш, быць зацікаўленымі цалкам аддаца Яму ва ўладу. Абсалютны давер Святому Духу дазваляе дзейнічаць у сэрцы верніка з каласальнай моцай. Квітнеючы сад у душы паступова выспявае і прыносіць чалавеку і супольнасці багатыя плады: любоў, радасць, спакой, доўгацярплівасць, спагадлівасць, дабрыню, велікадушнасць, вернасць, лагоднасць, сціпласць, умеркаванасць, чыстасць. Даверымся ж Святому Духу, дазволім Яму дзейнічаць у нас на хвалу Пану!

*Ангеліна Пакачайла*



*Праз воды хросту ў душы з'яўляецца новае, звышнатуральнае жыццё – асвячаючая ласка*



*З моманту пасвячэння святары назаўсёды адкрываюць свае сэрцы на Духа*

## Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Вучні пазналі Пана ў жэсце ламання хлеба. Гэта ў ім змяшчаецца ўся гісторыя Езуса. Эўхарыстыя з'яўляецца знакам таго, чым павінен быць Касцёл. Пан ламае нашае жыццё і дае яго іншым, бо няма любові без ахвяры.*

*Сустрэча Хрыста з 2-ма вучнямі, што накіроўваліся ў Эмаўс, была каароткай. Але, тым не менш, яна дэманструе галоўнае прызначэнне Касцёла. Гэты выпадак паказвае нам, што хрысціянская супольнасць не закрытая ў непрыступнай крэпасці, але крочыць у жывым асяроддзі, знаходзіцца ў дарозе. Там сустракае людзей са сваімі надзеямі і расчараваннямі, часам цяжкімі. Касцёл слухае гісторыі ўсіх, як быццам вымаючы іх са шкатулкі асабістага сумлення, каб затым даць Слова жыцця і сведчанне Божай любові – любові, вернай да канца.*

*Мы ўсе ў жыцці мелі складаныя і цёмныя моманты, хвіліны, калі ішлі сумныя, задуменныя, без перспектыў, бачачы перад сабой толькі сцяну. Езус заўсёды побач, каб даць надзею, каб распаліць нашы сэрцы. Ён гаворыць: "Ідзі наперад, Я з Табой. Ідзі наперад".*

*Фрагмент катэхезы, прамоўленай падчас агульнай аўдыенцыі на плошчы св. Пятра ў Ватыкане, 24.05.2017*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Грэх з'яўляецца перашкодай на шляху чалавека да Бога. Сучасны свет, і асабліва Еўропа, мэтанакіравана элімінуюць Яго з чалавечай думкі і дзейнасці, а праз гэта выкрэсліваюць са сваёй культуры, якая вырасла на хрысціянстве. Сёння яно, як і ў першыя стагоддзі, церпіць пераслед.*

*Не трэба дзівіцца, што сучасны свет перажывае мноства крызісаў – эканамічны, фінансавы, сацыяльна-палітычны, дэмаграфічны, крызіс сям'і і г. д. Самы вялікі Божы дар, якім з'яўляецца жыццё, зрабіўся таварам, што можна купіць і прадаць. Ім можна маніпуляваць, а за яго абарону – быць пакараным. Рэальнасцю сучаснага жыцця сталі войны і тэрарыстычныя акты. Гэтыя і іншыя анамаліі сучаснасці сведчаць аб тым, што на светам навіс апакаліптычны дамоклаў меч.*

*Таму заклік Марыі да малітвы і навяртання не можа ўспрымацца як аднаразовы. Ён павінен гучаць з пакалення ў пакаленне згодна з патрабаваннямі часу.*

*Фрагмент даклада на сімпозіуме да 100-годдзя фацімскіх аб'яўленняў*




◆ *Папа Францішак правёў публічны кансісторый, падчас якога ўвёў у кардынальскую годнасць 5 іерархаў: арцыбіскупа Жана Зербо (Малі), арцыбіскупа Хуана Хасэ Амела (Іспанія), біскупа Андэрса Арборэліуса (Швецыя), біскупа Луі-Мары Лінг Манґханехуна (Лаос), біскупа Хасэ Грэгорыя Раса Чавеса (Сальвадор). У адпаведнасці з Кодэксам кананічнага права, у функцыі кардыналаў уваходзіць абранне на канклаве Папы Рымскага і дапамога Святому Айцу ў кіраўніцтве каталіцкім Касцёлам, якую яны аказваюць калегіяльна.*

◆ *Пантыфік сустрэўся з прэзідэнтам ЗША Дональдам Трампам. Спачатку адбылася асабістая гутарка Папы і кіраўніка дзяржавы, затым да сустрэчы далучыліся іншыя прадстаўнікі амерыканскай дэлегацыі: члены сям'і і адміністрацыі на чале з Дзяржаўным сакратаром ЗША. Падчас візіту было выказана задавальненне ад добрых двухбаковых адносін, супольнай дзейнасці на карысць жыцця, а таксама рэлігійнай вольнасці і свабоды сумлення. Была агучана надзея на супрацоўніцтва ў сферы аховы здароўя, адукацыі і дапамогі эмігрантам.*

◆ *Санктуарый Маці Божай Ружанцовай у Фаціме атрымаў у мінулым годзе больш за 250 тысяч просьбаў аб малітве. Пераважную частку пакінулі пілігрымы, астатнюю – даслалі праз пошту. "Большасць лістоў датычыць асабістых і сямейных праблем. Дастаткова сярод іх і просьбаў, якія вынікаюць з людскога адчаю. Гэты стан наступае па розных прычынах: фінансавых, пачуццёвых, звязаных са здароўем і інш.", – патлумачыла Сандра Дантас з прэсбюро партугальскага марыйнага санктуарыя.*

◆ *Заступнікамі XXXIV Сусветных дзён моладзі абвешчаны Маці Божая, св. Ян Павел II, св. Ян Боска, св. Ружа Лімская, св. Хасэ Санчэс дэль Рыа, св. Хуан Дыега, св. Марцін дэ Поррэс, бл. Марыя Рамэра Менесэс і бл. Аскар Рамэра. Цэнтральныя падзеі СДМ-2019 адбудуцца ў Панаме 22–27 студзеня пад дэвізам "Вось я, слуга Пана. Няхай мне станецца паводле Твайго слова" (Лк 1, 38). На лагатыпе сустрэчы змешчаны сімвалы, якія спалучаюць крыж пілігрыма, паломніцкую дарогу, тэрытарыяльны контур краіны-гаспадара, а таксама сімвалічнае ўяўленне Багародзіцы і Яе каранацыі.*

◆ *На 70-м кінафестывалі ў Канах адбылася сусветная прэм'ера польскага дакументальнага фільма пра св. Максімільяна Марыю Кольбэ пад назвай "Дзве кароны". Як зазначае рэжысёр Міхал Кандрат, "біяграфія гэтага францысканца – гатовы сцэнарый. Я здзіўляюся, што ніхто раней не ўзяўся зняць фільм пра Кольбэ". Кінастужка пачынаецца з моманту, калі святому аб'явілася Маці Божая і дала 2 кароны: чырвоную – як сімвал пакутніцтва, белую – на знак чысціні. Пасля містычнай сустрэчы Максімільян стаў вялікім прыхільнікам Багародзіцы і заснаваў Рыцарства Беззаганнай.*

*credo.pro; pch24.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

# Сёння трэба супрацiўляцца цывiлiзацыi смерцi




**Доля абортаў ад колькасці цяжарнасцей у рэгіёнах Беларусі паводле дадзеных за 2016 г.**

- **Мінская вобл. – 13,5%**
- **Брэсцкая вобл. – 15,4%**
- **Гродзенская вобл. – 16,2%**
- **Магілёўская вобл. – 18,6%**
- **г. Мінск – 19,5%**
- **Гомельская вобл. – 24,3%**
- **Віцебская вобл. – 24,6%**

**У сучасным грамадстве назіраецца востры крызіс сужэнства, які праяўляецца, між іншым, у адмове ад нараджэння дзяцей. З мэтай прыцягнення ўвагі да праблемы абароны чалавечага жыцця ад зачацця да натуральнай смерці і традыцыйных сямейных каштоўнасцей у Беларусі дзейнічаюць адмысловыя арганізацыі, рухі і ініцыятывы. Да ліку тых, хто служыць дабру зачатага дзіцяці, яго маці і сям'і, належыць малітоўная група "У абарону жыцця", якая паўстала ў горадзе над Нёманам па ініцыятыве Аліны Санько.**

**Аліна, распавядзіце, калі ласка, пра гісторыю ўзнікнення малітоўнай групы.**

Ужо ў падлеткавым узросце я часта задумвалася над пытаннем, чаму бацькам бракуе любові і адвагі, і яны пазбаўляюць сваіх ненароджаных дзяцей права на жыццё. Потым сама выйшла замуж, спазнала радасць мацярынства і ўжо больш сур'ёзна пачала цікавіцца пытаннямі абароны зачатага жыцця, якое знаходзіцца пад пагрозай знішчэння.

Разам з мужам мы часта прымалі ўдзел у рэкалекцыях для сужэнцаў. І гэтыя духоўныя практыкаванні ў пэўнай ступені сталі штуршком да пачатку дзейнасці на карысць самых слабых і безабаронных.

У 2013 годзе я даведалася аб існаванні дабрачыннага Фонду абароны жыцця і сям'і "Адкрытыя сэрцы". Яго валанцёры працуюць у розных гарадах Беларусі, праводзяць штодзённае малітоўнае дзяжурства, размаўляюць з цяжарнымі перад абортам у аддзяленнях неадкладнай гінекалогіі і жаночых кансультацыях. Я звярнулася да дырэктара Уладзіслава Валаховіча з просьбай далучыцца да гэтай ініцыятывы і разам з аднадумцамі пачала распаўсюджваць у Гродне буклеты і ўлёткі ў абарону жыцця, а таксама ствараць тэматычныя стэнды ў жаночых кансультацыях.

Потым лёс звёў мяне з Марынай Валачковай, якая каардынуе працу Гродзенскага цэнтра абароны жыцця і сям'і "РадзіМа". Мы разам прымалі ўдзел у семінарах па пытаннях абароны жыцця. Пасля пачалі цесна супрацоўнічаць. У выніку на вуліцах горада з'явіліся білборды, якія заклікаюць бацькоў захоўваць жыццё зачатым дзецям.

Уся гэтая дзейнасць, сфакусіраваная вакол тэматыкі pro-life, пастуова вылілася ў ідэю стварэння адмысловай групы людзей, якія будуць ахінаць сваімі малітвамі ўсіх ненароджаных, што знаходзяцца пад пагрозай аборту; усіх людзей, якія прычыніліся да дзетазабойства; усе сям'і, якія не маюць дзяцей (каб не адракаліся ад свайго крыжа, а з пакорай у сэрцы прымалі волю Нябеснага Айца).

*Любая жанчына, якая сумняваецца ў сваім жаданні пакінуць дзіця, можа звярнуцца за дапамогай у кабінет "За Нараджэнне!", які дзейнічае ў Гродне. Тут ёй акажуць комплексную дапамогу псіхолаг, псіхатэрапеўт, сацыяльны работнік і юрыст, а таксама каталіцкі ці праваслаўны святар. Па жаданні кансультаванне можа быць ананімным.*

*Даведацца аб часе працы і запісацца на прыём можна ў рэгістратуры жаночай кансультацыі №2 г. Гродна па адрасе: вул. Транспартная, 3, - альбо па тэл.: (8 0152) 56-71-06, (8 0152) 52-71-07.*

Кожны з удзельнікаў нашай малітоўнай групы "У абарону жыцця" моліцца ў вышэй узгаданых інтэнцыях на працягу адной гадзіны ў тыдзень. Сустракаемся кожную першую суботу месяца ў гродзенскім касцёле Божай Міласэрнасці, дзе ў 18.30 праходзіць адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту ў інтэнцыі жыцця. Затым адбываецца св. Імша з благаслаўленнем для цяжарных жанчын і тых, хто прагне мець патомства. Пасля св. Імшы ўдзельнікі групы збіраюцца разам, каб памаліцца і абмеркаваць планы на месяц.

**Удзельнікі Вашай групы не толькі моляцца за дзяцей, над якімі навісла пагроза аборту, але таксама прымаюць удзел у розных мерапрыемствах, накіраваных на абарону сямейных хрысціянскіх каштоўнасцей. Распавядзіце, калі ласка, пра найбольш цікавыя ініцыятывы.**

Сёлета мы правялі шэраг набажэнстваў Крыжовага шляху ў парафіях Гродзенскай дыяцэзіі, падчас якіх разважалі над тэмай абортаў і яго наступствамі. Закранлі праблемы дзяцей з асаблівасцямі развіцця, бяздзетных сем'яў, эўтаназіі, бязмежнай Божай любові, прабачэння і служэння. Такім чынам мы хацелі абудзіць у людскіх сумленнях уражлівасць да сэнсу і каштоўнасці чалавечага жыцця ў кожны момант і ў любым стане.

Зусім нядаўна ўдзельнікі нашай малітоўнай групы прынялі актыўны ўдзел у 4-м дабрачынным марафоне "15 дзён у абарону жыцця і сям'і", які быў прысвечаны Міжнароднаму дню сям'і і Міжнароднаму дню абароны дзяцей. У рамках гэтага мерапрыемства адбыўся традыцыйны аўта-мотапрабег "Гродна за забарону абортаў". Ён сабраў разам усіх неабыякавых да гэтай праблемы жыхароў горада. Больш за 60 транспартных сродкаў праехалі па яго вуліцах, узяўшы ў "малітоўнае кола" бальніцы і жаночыя кансультацыі абласнога цэнтра, дзе робяцца аборты.

Зараз працуем над тым, каб паказаць у навучальных установах і храмах горада перасоўную выставу ў абарону жыцця і сям'і пад назвай "Ёсць 2 шляхі: шлях жыцця і шлях смерці". Яна складаецца з 20-ці рол-стэндаў. Цэнтральны, як камень на скрыжаванні, заклікае задумацца аб выбары свайго шляху, аб наступствах рашэнняў, што прымаюцца ў самых галоўных пытаннях быцця: жыцця і смерці. На астатніх стэндах прадстаўлены дэмаграфічныя праблемы сучаснага свету, трагедыя адмовы ад нараджэння дзяцей, шкода кантрацэпцыі і абортаў для духоўнага і фізічнага здароўя мужа і жонкі. Выстава арыентуе слухачоў на цнатлівасць, натуральнае і гарманічнае сужэнства, заснаванае на любові і ўзаемапавазе.

Акрамя гэтага мы рэгулярна наведваем гродзенскія жаночыя кансультацыі, дзе пакідаем інфармацыйныя брашуры пра наступствы абортаў з рэкамендацыямі медыкаў і псіхолагаў, а таксама буклеты, у якіх распавядаецца аб тым, як развіваецца дзіця ва ўлонні маці, пачынаючы з першых дзён свайго існавання.




*Падчас аўта-мотапрабегу ўдзельнікі заклікалі адмовіцца ад абортаў і захаваць жыццё ненароджаных дзяцей*




*Сацыяльная рэклама ад цэнтра "РадзіМа" (гераіня білборда – Аліна Санько)*

***Права на жыццё, якое з'яўляецца Божым дарам, ахоўваецца запаведдзю "Не забівай", што абараняе асабліва слабых і бездапаможных. Зачатая чалавечая істота несумненна належыць да гэтай катэгорыі. Беручы пад увагу дадзеную праўду, Кодэкс кананічнага права далучыў штучнае перарыванне цяжарнасці да злачынстваў супраць жыцця і свабоды чалавека. Той, хто свядома і добраахвотна здзяйсняе гэтае беззаконне, не толькі цяжка грашыць, але і падлягае экскамуніцы (найвышэйшае касцёльнае пакаранне).***

**Сёння даводзіцца абараняць дзіця ад уласнай мамы ці таты, якія супраць яго нараджэння. Чаму, на Вашу думку, бацькі так часта адмаўляюцца захаваць зачатае жыццё? Як паўплываць на свядомасць людзей?**

Праблема абортаў – сапраўдная драма нашай культуры. Мы з'яўляемся спадчыннікамі савецкай дзяржавы, якая адна з першых у свеце легалізавала дзетазабойства. Лічу, што зараз мы пажынаем плады той антысямейнай палітыкі, якая праводзілася доўгія гады.

У сучасным беларускім грамадстве цалкам нармальна ўспрымаюцца разводы, жыццё без шлюбу. Сужэнцы ўсё часцей выбіраюць свабоднае ад дзяцей, эгаістычнае жыццё ўдваіх. Актуальнай застаецца і праблема планавання сям'і. Многія пары баяцца зачацця, выкарыстоўваюць кантрацэптывы, бо не валодаюць інфармацыяй пра натуральныя метады кантролю нараджальнасці. І вельмі часта аборт становіцца адзіным спосабам планавання сям'і альбо выйсцем з сітуацыі, калі дзіця не адпавядае чаканням (напрыклад, калі яно народзіцца інвалідам).

У святле гэтых праблем трэба весці фармацыйную дзейнасць, робячы націск на выхаванне да адказнага бацькоўства і чыстасці. Каб сем'і былі здаровымі і трывалымі, у душах людзей трэба цярпліва вырошчваць збожжа святасці чалавечага жыцця. Толькі тады яно дасць багаты плён.

*Кінга Красіцкая*

**Да малітоўнай групы "У абарону жыцця" можа далучыцца любы жадаючы. Больш падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 033) 655-41-90, Аліна Санько.**

# Некалькі поглядаў на Эўхарыстыю



**Эўхарыстыя з'яўляецца багатым і складаным паняццем. Чалавек нязграбна набліжаецца да вялікай таямніцы веры, а яго пазнанне абмежавана пачуццямі. Мы – людзі эпохі інтэрнэту, заваявання космасу, прагрэсу ведаў і моцы тэхнікі – павінны пакорна прыняць яе і прасіць Бога аб дары веры, каб пазнаць вялікія справы Эўхарыстыі, якія перарастаюць нас саміх.**

## Святая Камунія

"Камунія" з лацінскай мовы перакладаецца як "з'яднанне" (чалавека з Богам). На працягу вякоў Касцёл працягвае верыць, што падчас Эўхарыстыі Бог цудоўным чынам моцай Святога Духа перамяняе прынесеныя на алтар дары ў Цела і Кроў свайго Сына. Трыдэнцкі сабор адкрыта і проста вызнае, што "ў паважаным сакраманце святой Эўхарыстыі пасля кансэкрацыі хлеба і віна пад выглядам гэтых бачных рэчаў праўдзіва, субстанцыяльна знаходзіцца Пан наш Езус Хрыстус, сапраўдны Бог і чалавек". Гэта значыць не сімвалічна, а канкрэтна "вось тут".

Цяжка зразумець тое нязвыклае перамяненне, няўлоўнае для чалавечага вока: на алтары надалей знаходзяцца Гостыя і напоўнены віном келіх. Гэтая Таямніца турбавала хрысціян спрадвеку. Калі спрабавалі зразумець і любой цаной даказаць сапраўдную прысутнасць Пана Езуса ў Найсвяцейшым Сакраманце, калі не маглі згадзіцца на тое, каб яна засталася таямніцай, выдумвалі розныя ерасі, сумняваліся ў гэтай праўдзе ці адмаўлялі яе. У адказ на гэта ў XII–XIII стагоддзях у Касцёле шырока распаўсюдзілася эўхарыстычная набожнасць. Сталі папулярнымі разнастайныя формы культу Езуса Хрыста, прысутнага ў Найсвяцейшым Сакраманце. Гэта было вынікам глыбейшага зразумення таго, чым з'яўляецца Эўхарыстыя, а менавіта, што ў выніку транссубстанцыяцыі хлеб і віно становяцца ў ёй сапраўдным Целам і Кроўю Езуса Хрыста, а праз гэта Бог-Чалавек на самой справе прысутнічае сярод свайго люду.

Св. Тамаш Аквінскі падкрэслівае, што Эўхарыстыя заключае ў сабе "ўсё духоўнае багацце Касцёла" і таму з'яўляецца "мэтай усіх сакрамантаў". Катэхізіс Каталіцкага Касцёла тлумачыць тую ж праўду: "Эўхарыстыя – гэта крыніца і адначасова вяршыня хрысціянскага жыцця. Іншыя сакраманты звязаны са святой Эўхарыстыяй і скіроўваюцца да яе. У Найсвяцейшай Эўхарыстыі заключаны ўвесь духоўны скарб Касцёла" (ККК, 1324).

## Эўхарыстычныя цуды

З 750 года задакументаваны 132 эўхарыстычныя цуды. Першым з іх лічыцца падзея, якая адбылася на пачатку VIII стагоддзя ў Ланчана (Італія). Гэта здарылася ў кляштары св. Лонгіна падчас св. Імшы, калі пэўны святар, які часта сумняваўся ў пераісточанні, скончыў прамаўляць словы кансэкрацыі. Гостыя ў яго далонях перамянілася ў фрагмент цела, а віно ў келіху – у кроў.

Адным з апошніх эўхарыстычных цудаў лічыцца падзея, якая адбылася ў 1996 годзе. Кс. Алехандра Пезэт адпраўляў св. Імшу ў святыні, што знаходзіцца ў гандлёвым раёне Буэнас-Айрэса (Аргенціна). Калі ўжо заканчваў удзяляць св. Камунію, да яго падышла жанчына і паведаміла, што ў канцы касцёла на падсвечніку ляжыць Гостыя. Ксёндз пайшоў туды і ўбачыў яе, апаганеную. Гостыя была так забруджана, што святар не мог яе ўжыць, таму паклаў у пасудзіну з вадой і паставіў у табернакль у капліцы Найсвяцейшага Сакраманту. Калі праз некалькі дзён адкрыў табернакль, са здзіўленнем заўважыў, што Гостыя перамянілася ў крывавае рэчыва. І праз столькі гадоў яна не дэградзіруе.

## Божае Цела

Нагодай для ўстанаўлення свята Божага Цела былі аб'яўленні бл. Юліяны Льежскай, ігуменні аўгустынак з кляштара Монт Карніліён (Бельгія). Манахіня шматразова мела бачаннеззяючага шчыта, падобнага на месяц, з цёмнай плямай. Гэта было расцэнена як знак адсутнасці ў літургічным календары спецыяльнага дня, прысвечанага ўшанаванню Найсвяцейшага Сакраманту. У 1246 годзе пад уплывам аб'яўленняў тагачасны біскуп дыяцэзіі Льеж устанавіў такое свята для лакальнага Касцёла. У наступныя гады яно стала папулярным у суседніх дыяцэзіях. У 1264 годзе папа Урбан IV, які раней быў архідыяканам катэдры ў Льежы, устанавіў свята Божага Цела для Паўсюднага Касцёла. У 1391 годзе папа Баніфацый IX загадаў святкаваць урачыстасць усюды, дзе дагэтуль яна не практыкавалася.

*"Эўхарыстыя знаходзіцца ля вытокаў усіх форм святасці. Колькі святых зрабілі сапраўдным сваё жыццё дзякуючы эўхарыстычнай набожнасці! Цэнтр святасці заўсёды знаходзіўся ў сакраманце св. Камуніі. Таму абавязкова трэба, каб у Касцёле падтрымлівалася вера ў гэтую найсвяцейшую таямніцу, каб яе набожна здзяйснялі і каб яна інтэнсіўна перажывалася. Цэлебрацыя і адарацыя Эўхарыстыі дазваляе наблізіцца да Божай любові і далучыцца да яе асабіста, ажно да з'яднання з умілаваным Панам".*

*Святы Айцец Бенедыкт XVI*




*Няхай будзе праслаўлёны Найсвяцейшы Сакрамант, праўдзівае Цела і Кроў Пана нашага Езуса Хрыста!*

## Эўхарыстычныя кангрэсы

Ідэя міжнародных сустрэч, прысвечаных эўхарыстычнаму культу, нарадзілася ў Заходняй Еўропе ў сярэдзіне 70-х гадоў XIX стагоддзя. Іх мэта заключалася не толькі ў ажыўленні і пашырэнні набажэнства да Хрыста ў Эўхарыстыі, але таксама ў супрацьстаянні секулярызацыйным тэндэнцыям з выразна антыкасцёльным і нават антырэлігійным стаўленнем. Асаблівую зацікаўленасць гэтымі пытаннямі выказвалі асяроддзі свецкіх асоб у Францыі. У мінулым годзе Нацыянальны эўхарыстычны кангрэс праходзіў у Гродне.



*Першая св. Камунія з'яўляецца вялікай і важнай падзеяй у жыцці кожнага верніка*

## Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту

Пад адарацыяй мы разумеем пашану, якую складаем Пану Езусу, прысутнаму пад відам эўхарыстычнага Хлеба. Звычайнай формай адарацыі з'яўляецца прыкленчванне перад прыняццем св. Камуніі і падчас праходжання перад табернаклем, схіленне каленяў на Узнясенне і падчас прыватнай малітвы. Урачыстай формай адарацыі з'яўляецца выстаўленне Цела Хрыста ў манстранцыі і цырымоніі, якія гэтаму спадарожнічаюць. Асаблівыя формы адарацыі – 40-гадзіннае набажэнства і т. зв. вечная адарацыя, калі эўхарыстычны Хлеб выстаўлены пастаянна, і яго нястомна адаруюць.

Часам людзям здаецца, што падчас малітвы перад Панам Езусам у Найсвяцейшым Сакраманце неабходна ўвесь час штосьці гаварыць, маліцца чарговай літаніяй ці на ружанцы. Але на самой справе адараваць – значыць трываць перад Богам без лішніх слоў, без нейкай актыўнасці са свайго боку. Адарацыя не палягае ні на дыялогу, ні на маналогу, паколькі з'яўляецца такім станам, у якім чалавек "выключаецца" з рэжыму камунікацыі і канцэнтруецца на самім трыванні перад Панам Богам. Так, як Марыя, якая, па словах Езуса, выбрала "найлепшую частку". Мы прывыклі, што, каб нешта зарабіць, трэба выканаць працу. Адсюль і беспыннае прамаўленне розных малітваў. Аднак забываемся, што Божая ласка бескарыслівая і бясплатная. Гаворка аб тым, каб быць як малое дзіця, прыведзенае ў святыню кімсьці з сям'і. Яго ахінае ласка і Божая міласэрнасць, але ж яно нічога для гэтага не робіць.

## Благаслаўленне Найсвяцейшым Сакрамантам

Благаслаўленне ўдзяляецца святаром ці дыяканам пасля выстаўлення Найсвяцейшага Сакраманту і на заканчэнне эўхарыстычнай працэсіі. Цэлебрант крэсліць манстранцыяй знак крыжа над вернікамі, якія ў гэты час стаяць на каленях. Благаслаўленне Найсвяцейшым Сакрамантам адрозніваецца ад іншых тым, што благаслаўляюць Эўхарыстыяй, гэта значыць сапраўды прысутным сярод вернікаў Хрыстом.

**Мы ўсе заклікаsuccessful наладжваць сувязі з Богам. Мэта Эўхарыстыі – перамяніць нас, каб сталі, як Хрыстос. Збаўца чакае кожнага з усім багаццем сваёй ласкі. Ігнараваць і губляць гэтую магчымасць было б непрыстойным з нашага боку, так, быццам будучы запрошанымі на вячэру, мы выйшлі з яе галоднымі, бо нічога не пакаштавалі. Мэта нашага жыцця – з'яднанне з Богам. А Эўхарыстыя дае нам адчуванне смаку Неба ўжо тут, на зямлі.**

*Кс. Алег Кананові*




**CatholicNews.by**

### *Трывае праца над фільмам з удзелам Святога Айца*

***Кінакарціна называецца "Папа Францішак. Чалавек слова".***

*Фільм стане своеасаблівым падсумаваннем вучэння Пантыфіка і яго стаўлення да шматлікіх праблем. У ім Святы Айцец звернецца непасрэдна да гледача, разважаючы на тэмы экалогіі, міграцыі, спажывецтва і сацыяльнай справядлівасці.*

*"Папа Францішак – жывы прыклад чалавека, які цвёрда прытрымліваецца таго, што кажа. Аўдыенцыі ў Святога Айца натхнілі мяне на тое, каб пераказваць аўдыторыі ва ўсім свеце радыкальную спагаду і чалавечнасць Пантыфіка", – сказаў рэжысёр фільма Вім Вэндарс.*




### *У Польшчы з'явіцца новы благаслаўлёны*

***Намаганні для распачацця беатыфікацыйнага працэсу Генрыха II з дынастыі Пястаў прыклалі легніцкае Душпастырства людзей працы '90 і Брацтва Генрыха Набожнага.***

*У 1241 годзе Слуга Божы стаяў на чале саюзных войск, што абаранялі Легніцу ад нападу манголаў. Загінуў у бітве, хутчэй за ўсё на месцы, дзе сёння знаходзіцца базіліка на Легніцкім полі. У 2011 годзе тагачасны мясцовы ардынарый біскуп Стэфан Ціхі сабраў спецыяльную групу вучоных, задачай якіх быў збор доказаў аб мучаніцкай смерці Генрыха II у абароне веры.*




### *Каталіцкі епіскапат Беларусі рыхтуе пагадненне з уладамі*

***Дакумент павінен урэгуляваць адносіны паміж Касцёлам і дзяржавай у сферах медыцыны, адукацыі, культуры.***

*"Трэба акармляць і вязняў у месцах зняволення, і хворых у шпіталях. Школа – таксама тая прастора, дзе павінен прысутнічаць Касцёл. А калі няма такой дамовы, часта ўсё залежыць ад канкрэтнага чалавека. Таму гэта трэба замацаваць правам", – патлумачыў старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.*

*Пагадненне можа стаць унікальным. Па словах Мітрапаліта, няма ніводнай іншай краіны ў свеце, дзе такога роду адносіны рэгуляваліся б дамовай паміж мясцовым Касцёлам і дзяржавай. Звычайна гэта канкардат або іншае пагадненне, касцёльны бок у якім прадстаўляе Святы Пасад.*

*Кінга Красіцкая*

## Катэхеты Гродзенскай дыяцэзіі сабраліся на агульную сустрэчу

*У спатканні прынялі ўдзел духоўныя і свецкія асобы. Прысутныя падсумавалі 2016–2017 катэхетычны год.*

Удзельнікі выслухалі 2 рэфераты. Першы з іх пад назвай "Святое Пісанне – крыніца і фундамент катэхезы" прадставіў кс. д-р Аляксандр Мацкевіч, натарыус Гродзенскай курыі. Святар прапанаваў кароткі гістарычны нарыс праблематыкі месца і значэння Святога Пісання ў катэхезе з тлумачэннем паслясаборнага разважання ў святле афіцыйных дакументаў Касцёла.

Другі рэферат пад назвай "Роля катэхезы ў працэсе рэлігійнага выхавання" прэзентаваў а. д-р Андрэй Шчупал CSsR, дырэктар Аддзела каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі. Святар адзначыў, што мэта катэхетычнай працы – зрабіць чалавека хрысціянінам. "У пакліканні і пасланні катэхета мы бачым місію, якая паходзіць ад Хрыста. Ён дае сілы для пераадолення пагроз і цяжкасцей, аберагае перад сумненнем і адмаўленнем, калі надыходзяць цяжкія хвіліны", – падкрэсліў а. Андрэй.



Сустрэча катэхетаў завяршылася св. Імшой у гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Яе ўзначаліў дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

## Кс. Яцэк Маркель CMF адзначыў 25-годдзе прэзбітэрскага пасвячэння

*Урачыстасці адбыліся ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Зэльве. Усе гэтыя гады святар служыць у мясцовай парафіі. З'яўляецца членам супольнасці місіянераў кларэтынаў, якія аддаюць асаблівую пашану Беззаганнаму Сэрцу Найсвяцейшай Панны Марыі.*

Св. Імшу падзякі, у якой прынялі ўдзел шматлікія вернікі, узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Іерарх выказаў удзячнасць святару за гады служэння ў Хрыстовым Касцёле. У малітве прасіў для яго дароў Святога Духа і патрэбных Божых ласкаў. "Няхай Пан умацоўвае Тваё сэрца сваёй вернай прысутнасцю, адкрывае яго для іншых і напаўняе сваёй бясконцай любоўю", – пажадаў біскуп.

Напрыканцы вернікі падзякавалі свайму душпастыру за прыклад малітвы і святарскай руплівасці.

Таксама у гэты дзень біскуп Аляксандр удзяліў сакрамант канфірмацыі вернікам мясцовай парафіі, парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Нястомнай Дапамогі ў Ізабеліне і парафіі св. Елізаветы Венгерскай у Падароску. Іерарх заклікаў маладых людзей станавіцца ўсё больш свядомымі членамі Касцёла, каб з вялікай верай і адвагай ісці па шляхах сучаснага свету.



## Рэліквіі бл. Міхала Гедройца ўнесены ў касцёл у Быстрыцы

*У мясцовай святыні Узвышэння Святога Крыжа адбылася св. Імша з удзелам біскупа Аляксандра Кашкевіча. Разам з прысутнымі іерарх маліўся праз заступніцтва бласлаўлёнага ў інтэнцыі ўсіх парафіян.*

На пачатку ўрачыстасці біскуп Аляксандр адзначыў, што бл. Міхал паходзіць з гэтых земляў. Для сучасных людзей ён павінен быць прыкладам для пераймання і ўзорам годнага хрысціянскага жыцця. Па словах іерарха, праз факт унясення рэліквій у святыню вернікі абралі сабе новага апекуна, да якога варта звяртацца ў розных патрэбах душы і цела.

У гаміліі кс. Юрый Марціновіч, адказны за СМІ Гродзенскай дыяцэзіі, адзначыў, што бласлаўлёны, які з'яўляецца асаблівым апекуном хворых і закрыстыян, быў вядомы сваёй вялікай сціпласцю і пакорай. Не адмаўляў нікому, хто быў у патрэбе. Яго атачалі любоўю і павагай. Памёр у арэоле святасці пасля прыняцця Эўхарыстыі, стоячы на каленях з малітвай на вуснах. "Бл. Міхал вучыць нас сёння трываць у Божай прысутнасці, спаўняць маленькія рэчы вялікім спосабам", – сказаў кс. Юрый.



Пробашч кс. Казімір Ляховіч выказаў надзею, што з гэтай хвіліны культ вялікага бласлаўлёнага будзе яшчэ больш развівацца ў парафіі, а свае інтэнцыі і просьбы вернікі з даверам будуць даручаць Богу праз яго заступніцтва.

## Кс. Ян Рэйшаль адзначыў 25-годдзе святарства

*Св. Імша падзякі адбылася ў парафіяльным касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Жалудку.*

На ўрачыстасць прыбылі шматлікія госці, у тым ліку біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі і дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі, а таксама святары, знаёмыя з асобай юбіляра і тыя, што ў свой час праходзілі душпастырскую практыку пад яго чулым вокам.

Літургію ўзначаліў біскуп Юзаф Станеўскі. У гаміліі іерарх адзначыў, што сярэбраны юбілей святара сплятае ўсе дні яго служэння, прапануючы зірнуць на пройдзены шлях.

Рашэннем біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча ў дзень святкавання 25-й гадавіны святарства юбіляр быў абвешчаны ганаровым канонікам катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Казіміра. Святар падзякаваў Богу за дар паклікання, а Найсвяцейшай Маці – за апеку. А таксама выказаў словы асаблівай падзякі ўсім, хто на працягу гэтых гадоў разам з ім ішоў шляхам, што вядзе чалавека да святасці.



## Рэдэмптарысты правялі чарговыя святыя місіі

*Айцы Валерый Мазюк і Андрэй Ядкоўскі прыехалі з рэкалекцыямі ў парафію Спаслання Святога Духа ў Бярозаўцы і парафію Найсвяцейшага Сэрца Езуса і св. Андрэя Баболі ў Мінойтах.*

Святары прапанавалі вернікам паразважаць над тэмай "Грэх і збаўленне". Асаблівую ўвагу звярнулі на цярпенне ў жыцці чалавека. У межах рэкалекцый місіянеры таксама спаткаліся з хворымі, сталымі асобамі, дзецьмі і моладдзю. Сем'і парафіі мелі магчымасць аднавіць сужэнскія абяцанні і атрымаць бласлаўленне місійным крыжам.

Завяршальным момантам святых місій стаў дзень усталявання крыжа каля святыні. Ён будзе нагадваць вернікам пра перажытыя місіі і дадзеныя Богу абяцанні быць падобнымі да Хрыста.



## Новы адказны за сталую фармацыю святароў прызначаны ў Гродзенскай дыяцэзіі

*Кс. Ян Сарэла замяніў на гэтай пасадзе кс. Міхалая Ціхановіча, які выконваў адпаведныя абавязкі з 2014 года.*

Роля мадэратара заключаецца ў сумеснай працы з маладымі святарамі да 10-ці гадоў святарства па паглыбленні сувязі з Найвышэйшым Святаром – Езусам Хрыстом, пашырэнні тэалагічна-пастаральных ведаў і будаўніцтве адзінства ў супольнасці святароў лакальнага Касцёла.

Кс. Ян Сарэла паходзіць з парафіі Тракелі. З 2012 года з'яўляецца пробашчам у Воўпе.



## АНОНСЫ

### III ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ЛІДА – БУДСЛАЎ

**Паломніцтва пачнецца 22 чэрвеня св. Імшой у 9.00 у лідскім касцёле Узвышэння Святога Крыжа (Фара).**

Сёлета ўрачыстасці ў нацыянальным санктуарыі ў Будславе адбудуцца з 30 чэрвеня па 1 ліпеня. Святкаванні пройдуць пад дэвізам: "Фацімскае пасланне Марыі – шлях да навяртання".

*Запісацца ў пілігрымку і атрымаць больш падрабязную інфармацыю можна па тэлефонах:*
*(8 029) 959-51-50, кс. Анджэй Ганчар;*
*(8 029) 614-06-75, кс. Уладзімір Гуляй;*
*(8 029) 589-49-94, кс. Віталій Сідорка.*

### II АГУЛЬНАБЕЛАРУСКІ СЯМЕЙНЫ КАНГРЭС ПРОЙДЗЕ Ў БАРАНАВІЧАХ

**Яго арганізатарам з'яўляецца Рада па справах сям'і пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Мерапрыемства адбудзецца 23–25 чэрвеня.**

*Запіс па тэлефонах:*
*(8 029) 130-18-54, а. Пётр Фраштэнга OCD;*
*(8 029) 340-73-74, с. Барбара Сайнок;*
*(8 029) 588-42-73, Ірына Мялешка.*

### ПАРАФІЯ Ў КАРОБЧЫЦАХ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў ПОЛЬШЧУ

**Праграма аўтобуснай пілігрымкі прадугледжвае наведванне вядомых польскіх святынь і гарадскія экскурсіі.**

**Маршрут**
Гродна – Кракаў – Вялічка – Кальварыя Зэбжыдоўска – Чанстахова – Гродна

**Час пілігрымкі**
29 чэрвеня – 2 ліпеня

*Дадатковая інфармацыя па тэлефонах:*
*(8 0152) 67-47-24, (8 029) 583-07-02, (8 029) 887-10-24.*

### С. СТЭЛА ЯДКОЎСКАЯ CSFN АДЗНАЧЫЦЬ ЮБІЛЕЙ 50-ГОДДЗЯ МАНАСКАГА ЖЫЦЦЯ

**Назарэтанка будзе дзякаваць Богу за дар жыцця, веры, паклікання і за ўсе ласкі, якія спазнала на працягу гэтых гадоў.**

Урачыстасць адбудзецца ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) 16 ліпеня. Пачатак св. Імшы ў 12.00. Яе ўзначаліць Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

### VIII ПЕШАЕ ПАЛОМНІЦТВА ГРОДНА – НАВАГРУДАК

**Пілігрымка да месца мучаніцкай смерці 11-ці бласлаўлёных назарэтанак з Навагрудка будзе праходзіць 23–29 ліпеня.**
**Тэма сёлетняга паломніцтва –**
**"Ахвярная малітва сясцёр мучаніц як прыклад малітвы хрысціяніна".**

Арганізацыйная сустрэча адбудзецца 21 ліпеня ў 20.00 у гродзенскім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі).

*Запісацца ў пілігрымку можна падчас сустрэчы або па тэлефонах:*
*(8 029) 882-60-88, с. Філатэя;*
*(8 033) 321-26-33, с. Клара.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**4 чэрвеня 1967 г.** – кс. Ян Віналндзіс, *проб. Нача;*
**6 чэрвеня 2015 г.** – кс. Ян Занеўскі, *проб. Квасоўка;*
**8 чэрвеня 1981 г.** – кс. Юзаф Мар'ян Марсангер SJ, *проб. Солы;*
**10 чэрвеня 1998 г.** – кс. прэлат Міхал Варанецкі CM, *ген. вік., Гродзенская ВДС;*
**18 чэрвеня 1954 г.** – кс. канонік Антоній Курыловіч, *ген. вік., проб. Гродна.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# Адпачынак для дзяцей: з карысцю для цела і душы

**Для большасці бацькоў летнія канікулы суправаджаюцца з'яўленнем новых клопатаў. Чым заняць дзіця, каб яно не праводзіла ўвесь вольны час у тэлевізары або за камп'ютарам? Як зрабіць адпачынак не толькі прыемным, але і карысным, каб і самі былі спакойныя, і дзеці задаволеныя? Над гэтымі пытаннямі сёння разважаюць госці рэдакцыі "Слова Жыцця", якім па доўгу службы даводзіцца мець зносіны з дзецьмі і іх бацькамі.**

**"СЖ": Які адпачынак неабходны дзіцяці летам?**

**В. Парада:** Дзіця мае патрэбу ў змене абстаноўкі. Яму неабходны і карысны новыя эмоцыі, каб "перазагрузіцца" да пачатку наступнага навучальнага года.

**В. Толкіна:** Згодна са статыстыкай медаглядаў, дзеці сучаснага пакалення часта хварэюць на вірусныя інфекцыі. А лета – выдатная магчымасць, каб пастарацца павысіць імунітэт маладога арганізма. Для гэтага трэба загартоўвацца, займацца спортам, прытрымлівацца рэжыму дня і правільна харчавацца.

**М. Жыбартовіч:** Да таго ж, дзіцяці, як і кожнаму чалавеку, неабходны час, каб аднавіць фізічныя і духоўныя сілы. Пра гэта нам выразна гаворыць Евангелле: Езус і Апосталы таксама адпачывалі.

**"СЖ": На што бацькам трэба звярнуць асаблівую ўвагу пры арганізацыі летніх канікул для сваіх дзяцей?**

**М. Жыбартовіч:** Можна назіраць, як многія бацькі стаяць перад дылемай: як добра арганізаваць дзецям летні адпачынак. Шанцуе тым, у каго на вёсцы ёсць дзядулі і бабулі. Праблему можна лічыць нібы вырашанай: свежае паветра, смачная ежа без хіміі, цёплая атмасфера сярод блізкіх. Некаторыя імкнуцца адправіць дзяцей у лагер. Але далёка не ўсе маюць такую магчымасць. І тады многія дзеці, на жаль, "растрачваюць" свае канікулы на сядзенне ў гаджэтах…

**В. Толкіна:** Гэта сапраўдная драма ў нашы дні! Сёння, прыйшоўшы са школы, большасць дзяцей утаропліваюцца ў экраны камп'ютараў, планшэтаў, смартфонаў. На гэты занятак імі затрачваецца, у сярэднім, каля 6-ці гадзін у дзень. Хто ў гэтым вінаваты? Пытанне рытарычнае. Але нам усім, як мне здаецца, неабходна задумацца над тым, як пераламаць сваю і дзіцячую свядомасць на карысць таго, што будучыня залежыць ад самога чалавека, дабрабыт ствараецца ім самім.

**В. Парада:** Вядома, пакуль дзіця з'яўляецца непаўналетнім, адказнасць за яго нясуць бацькі, якімі бы дарослымі не хацелі здавацца маладыя людзі. Як паказвае мая практыка працы школьным псіхолагам, летам падлеткамі часцей за ўсё здзяйсняюцца правапарушэнні. Бацькі знаходзяцца на працы, а дзіця аказваецца прадастаўленым самому сабе. Крадзяжы, распіццё спіртных напояў, кіраванне транспартным сродкам без права на гэта – найбольш распаўсюджаныя праступкі сярод непаўналетніх. Бацькам варта быць вельмі асцярожнымі, праводзіць з дзецьмі прафілактычныя бяседы. Абавязкова размаўляць аб мерах бяспекі на вадаёме, у лесе і пра тое, як трэба сябе паводзіць, калі застаешся дома адзін.

**"СЖ": Вашы рэкамендацыі бацькам наконт таго, якім чынам арганізаваць адпачынак сваім дзецям максімальна эфектыўна?**

**В. Толкіна:** Як мага больш гуляць! Дзіцяці карысна пахадзіць басанож па траве, па пяску. Тады актывізуецца мноства нервовых канчаткаў, размешчаных на ступні. Арганізм загартоўваецца, павышаецца імунітэт. Раю займацца воднымі працэдурамі. Калі ўзімку даводзіцца задавольвацца басейнам, то ўлетку ёсць магчымасць плаваць у адкрытых вадаёмах, спецыяльна прызначаных для купання. У выніку ўмацоўваюцца мышцы цела, паляпшаецца пастава. Катайцеся на веласіпедзе. Пры рэгулярных нагрузках кроў цыркулюе хутчэй, насычаючы клеткі кіслародам. І не забудзьцеся "зараджацца" вітамінамі. Спажывайце шмат агародніны, садавіны, ягад.

**В. Парада:** Дзеці яшчэ доўга памятаюць пра тое, як правялі лета. Рэкамендую насыціць праграму канікул новымі ўражаннямі. Галоўны пункт – сумеснае баўленне часу. Гуляйце ў парку, лесе, вывучайце флору. Як гаварыў св. Дон Боска, пад кіраўніцтвам дарослых дзеці і падлеткі сёння могуць спазнаць любоў да жыцця, прыйсці ад экалогіі да свядомасці, ад стварэння да Творцы. Будуйце разам замкі з пяску, кідайце ў вадаём каменьчыкі. Запусціце на адкрытай мясцовасці паветранага змея. Чытайце разам кнігі. Яны дапамагаюць трэніраваць памяць, развіваюць вобразнае мысленне. Схадзіце ў паход. Арганізуйце сумеснае наведванне кінатэатра ці тэатра, парка атракцыёнаў. Памятайце, не так важна, дзе вы правядзеце адпачынак з сям'ёй, галоўнае, што гэты час – неацэнны. Ён здольны падарыць дзіцяці незабыўныя ўспаміны, да якіх ён будзе вяртацца яшчэ не адзін раз.

**М. Жыбартовіч:** Важна, каб канікулы былі не толькі прыемнымі, але і карыснымі духоўна. Летам (і не толькі) многія парафіі прапануюць дзецям і моладзі т. зв. "Канікулы з Богам". Гэта сустрэчы пры касцёле, якія ўключаюць супольную малітву, катэхезу ў незвычайнай форме, забавы, а таксама дыскатэкі, экскурсіі і шмат чаго іншага. Трэба адзначыць, што такія канікулы папулярныя не толькі сярод практыкуючых маленькіх вернікаў. Да іх часта далучаюцца дзеці, якія не ходзяць у касцёл або на катэхетычныя заняткі.

Для моладзі Касцёл арганізоўвае адпачынак у палатках – рэкалекцыі на прыродзе. Галоўнае, каб бацькі не адбівалі ахвоту дзяцей перажываннямі тыпу "як жа ты там, мой сыночак, будзеш начаваць у палатцы?" ці "там жа вады гарачай няма, як, дачушка, валасы памыеш?" і г. д. Такія моманты загартоўваюць і рыхтуюць маладых людзей самастойна пераадольваць перашкоды. Моладзь вучыцца быць уважлівай да іншых, вучыцца клапаціцца пра бліжняга. Як паказвае вопыт, тыя, хто не пабаяўся цяжкасцей, доўгі час памятаюць аб такім спосабе адпачынку.

Для самых актыўных і таленавітых таксама ёсць прапанова – Парафіяда дзяцей і моладзі. Яе праграма ўключае разнастайныя конкурсы і спаборніцтвы, заснаваныя на трыядзе "Святыня – Тэатр – Стадыён". Асабліва цікавыя фіналы Парафіяды ў Варшаве, дзе збіраецца каля паўтары тысячы ўдзельнікаў з розных краін свету. Перш за ўсё, гэта знаёмствы і ўражанні. Да таго, адкрываюцца новыя гарызонты ў асабістым развіцці, духоўным узрастанні.

І, канешне, пілігрымкі! Усёй сям'ёй! Разам ідзём, спяваем, молімся. Радасныя і адкрытыя на Бога і бліжняга бацькі – жывы прыклад веры для дзяцей і моладзі. І хоць камфорту мінімум, на нагах мазалі, на целе "калгасны" загар, але сэрца настолькі насычаецца духоўнымі вітамінамі і запалам, што іх хапае на яшчэ вельмі доўгі час.

**Прыемнага, карыснага і цікавага адпачынку!**

*Ангеліна Пакачайла*












ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ

# "Свята сям'і" прайшло ў Смаргоні

Мерапрыемства стала ўжо традыцыйным для парафіі св. Міхала Арханёла. Яго рыхтавала ўся салезіянская сям'я: святары, сёстры, супрацоўнікі, дзеці і моладзь. Арганізатары паклапаціліся, каб вясёлы настрой быў не толькі ў тых, хто спецыяльна прыйшоў на "Свята сям'і", але і ў выпадковых мінакоў, якія затым з радасцю да яго далучаліся.














